# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 29 (594) ГОД XII   16 ЛІПЕНЯ 1967 г.   ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### СУПРАЦОЎНІЦТВА

26 чэрвеня гэтага года дэлегацыя ГП БГКТ у складзе: сакратара Ул. Юзвюка, членаў В. Шведа і Я. Альшэўскага наведала Міністэрства асветы і вышэйшай адукацыі ў Варшаве. Яна правяла гутарку з дырэктарам Дэпартамента др. Ш. Лярэцкім аб сучасным становішчы асветы на беларускай мове і перспектывах яе развіцця на Беласточчыне.

Згодна з пастулатамі ўдзельнікаў павятовых настаўніцкіх канферэнцый, якія праводзіліся праз ГП у першым паўгоддзі гэтага года была ў першую чаргу абсуджана праблема забеспячэння пачатковых школ у падручнікі да навучання беларускай мовы. Як вядома, чытанкі для вучняў I—IV класаў для незрэфармаванай 7-гадовай школы яшчэ ёсць, і таму не адчуваецца хуткай патрэбы іх перавыдавання. Але чытанак да навучання роднай мовы ў класах 5—8 мінулы школьны год не было. У канцы года выйшаў падручнік на 5 клас, ды і той не змог ужо трапіць у школы. Іншыя падручнікі знаходзяцца ў працэсе падрыхтоўкі, фактычна ўжо ў друкарні. Дэлегацыя прасіла аб хутчэйшы іх выхад.

Дырэктар Ш. Лярэцкі выказаў спачуванне дзецям і настаўнікам і пабяцаў, што на працягу наступнага школьнага года ўсе падручнікі да навучання бел. мовы знойдуцца ў школах.

Чарговым пытаннем была справа паўнейшага забеспячэння школ у школьныя дапаможнікі (табліцы, планшы, метадычныя ўказанні да навучання роднай мовы, літаратуры для дзяцей і г. д.), якія неабходна імпартаваць з БССР. Дагэтуль усе мясцовыя заказы кніжак, якія праводзяцца праз міждзяржаўныя пакліканыя да гэтага прадпрыемствы, выконваюцца вельмі слаба (каля 10%).

Былі таксама закрануты пытанні павелічэння ліку гадзін навучання польскай мовы ў апошніх класах сярэдніх школ і падзелу вучняў гэтых класаў на меншыя семінарыйныя групы, што дазволіла б лепш падрыхтаваць беларускую моладзь з польскай мовы.

Адносна прапановы павелічэння колькасці гадзін Дырэктар Ш. Лярэцкі заняў адмоўнае становішча матывуючы і так перацяжаннем вучняў лекцыямі, але паабяцаў, што адразу разважыцца магчымасць падзелу на семінарскія групы і ўвядзецца можа нават ад верасня г. года.

Далей дэлегацыя паінфармавала аб цяжкасцях рэалізацыі пастановы Міністэрства асветы і выш. адукацыі ад 23. XII. 1966 г. у справе ўвядзення навучання элементаў айчыннай гісторыі на лекцыях бел. мовы або гісторыі Польшчы. Настаўнікі і вучні не маюць адпаведных дапаможнікаў. Як выяснілася, спробы выдання такога дапаможніка ўжо падымаліся, але аказалася гэта даволі складана. Міністэрства яшчэ раз разгледзіць гэты пастулат ГП.

Была закранута патрэба суцэльнага навучання беларускай мовы, аднолькавага падыходу ва ўсіх школах. З дыскусіі вынікала, што настаўнікі далей будуць вымушаны яе развязваць у залежнасці ад патрэб асяроддзя.

У заканчэнні сустрэчы Дыр. дэпартамента Ш. Лярэцкі падзякаваў дэлегацыі ГП за наведанне і супрацоўніцтва ў галіне ліквідацыі недахопаў у навучанні беларускай мовы. Пажадаў далейшага супрацоўніцтва.

**Ул. Ю.**



Возера. Фота Ю. Рыбінскі

## БРАТЫ-СУСЕДЗІ

# САРДЭЧНАСЦЬ І БРАТЭРСТВА

Прыгранічны абмен паміж Беластоцкім ваяводствам а суседняй братняй Гродзеншчынай стаўся пастаянным. Увайшоў ён у нармальны ход працы асноўных галін нашай гаспадаркі, культуры, асветы. Няма такога тыдня, каб да нас не прыязджала або ад нас не выязджала якая-небудзь дэлегацыя з Гродзеншчыны і на Гродзеншчыну. У асноўным гэта рабочыя дэлегацыі, мэтай якіх — знаёмства і абмен думкамі, доследамі. У сувязі з гэтым хочам магчыма шырока інфармаваць нашых чытачоў аб гэтым карысным і патрэбным абмене думкамі, аб нашым суседстве і братэрстве.

Прадстаўнік нашай рэдакцыі наведаў старшыню Ваяводксай камісіі прафсаюзаў **Дзімітра Карповіча**.

— Нядаўна Вы ўзначальвалі дэлегацыю беластоцкіх прафсаюзаў у паездцы на Гродзеншчыну. Ваша паездка была, здаецца, рэвізітам, бо ў маі г. г. прабывалі на Беласточчыне дэлегаты прафсаюзаў Гродзеншчыны.

— Вузка беручы — дык гэта быў рэвізіт. Але кантакты паміж прафсаюзнымі арганізацыямі Гродзеншчыны і Беласточчыны існуюць даўно.

— Што наведала беластоцкая дэлегацыя?

— О, праграма нашай пабыўкі надта багатая. Гаспадары запланавалі паказаць нам прадпрыемствы, калгас, а таксама наведанне Мінска. У Гродне мы пабывалі, між іншым на тонкасуконным камбінаце, былі ў піянерскім лагеры імя Гагарына, у Лідзе пабывалі ў фабрыцы абутку. Былі таксама ў калгасе імя XXII з'езда ў раёне Івя, у Навагрудку...

— Паколькі нам вядома, паездка мела характар не толькі куртуазійны, мела на мэце не толькі наведанне гарадоў, памятнікаў культуры, але...

— Перш за ўсё паездка нашай прафсаюзнай дэлегацыі мела рабочы характар. Усюды мы знаёміліся з працаю завадскіх камітэтаў прафсаюзаў. Цікавіла нас арганізацыя спаборніцтва і мабілізацыі калектываў да выканання прадукцыйных планаў, а таксама арганізацыя працы ў паасобных прадпрыемствах. Наша дэлегацыя пазнаёмілася таксама з сацыяльнымі аб'ектамі і будаўніцтвам жылых дамоў. А гэта ж усё справы, якімі займаецца і наша прафсаюзная арганізацыя.

(Працяг на стар. 3)




ІВАН КАЛЕСНІК

# БАЦЬКУ

У цябе была такая сіла!
Пра яе, відаць, ты сам не знаў:
Паўвалокі золакам касіла
Пачарнелых,
Здрацянелых траў.

Тройчы мы закладвалі падрубы —
Лёс няшчадны селішча знішчаў,
Ты адзін
Камель сасны ці дуба
Не на сані
На калёсы клаў.

Што тады быў я —
Табе па пояс,
Ды абед пароўну ты дзяліў,
Хоць не гнуў я паясніцу — пояс,
Дрэў на дол стагодніх не валіў.

Проста памагчы хацеў, ды й годзе,
І куды б ты толькі ні ступіў,
Нібы дождж пры сонечнай пагодзе,
Ля цябе я, неадчэпны, быў.

Быў
У дні спачыну і работы.
Быў,
Калі ўсхадзіліся грымоты.
Не ўзяла нас ніякая сіла,
Хоць вайна пасля вайны касіла.

І цяпер,
Калі бывае цяжка, —
Не абходзяць беды стараной —
Я тваю прыгадваю зацяжку,
Над паваленай на дол сасной.



*

Не дні лічу,
к табе лячу,
Лячу, як вырай з Поўдня.
Лячу узрушаны, маўчу:
На сэрцы скрухі поўна.
Яно трывожыцца, як птах,
Што з выраю вяртаецца.
Якая будзе ў чаратах
На сініх плёсах раніца?
Зарой ці хмараю сустрэне
Надрэчнае лазоўе?
Не празвінела б толькі стрэлам
Халоднае гняздоўе.
Тады па траўцы,
па пяру,
Што стылі ў стынь пад ветрамі,
Як птах, жытло сваё збяру,
Што ростанню распетрана.
Да цёплай хвалі прыпаду
Пасля зімы — разводдзя.
А грымне выбух на бяду? —
Не прападу,
Цябе знайду,
Як птах гняздо знаходзіць...

*

Апантана цвітуць вяргіні.
У тумане крычаць жураўы.
Дні вясны!..
Паспрабуй вярні іх,
Калі скошаны клін яравы.

Калі толькі у поўдзень восы
З верасоў пачастунак бяруць;
Калі ў шыбах азёрных восень,
З дрэў сарваўшы, тушыць зару.

Калі кветкі апошні тыдзень
Так палаюць халоднай красой.
...Не прышла да мяне
і не прыдзеш
З нерасплеценаю касой.

**1966 г. Масква**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### НЯМА МІРУ НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ

Блізкі Усход далей з'яўляецца той часткай свету, адкуль пахне порахам, адкуль павявае вайной. Факты парушэння перамір'я з боку Ізраіля сведчаць аб тым, што не адрокся ён ад далейшага вядзення вайны.

Справай, якая выклікае рознага тыпу каментарыі, з'яўляецца адказ на пытанне: чаму рэзалюцыя 18 незаангажаваных краін у ААН не атрымала патрэбнай большасці 2/3 галасоў? Амаль усе каментатары згодна сцвярджаюць, што было гэта вынікам націскаў ЗША на залежныя ад сябе краіны. Аб махінацыях ЗША у ААН сведчыць і тое, што складзены імі праект рэзалюцыі ў справе ізраільска - арабскага канфлікту быў адкліканы дэлегатам ЗША на пагтары мінуты перад галасаваннем. Чым даўжэй, на Блізкім Усходзе, утрымаецца напружаная сітуацыя, тым ёсць большая магчымасць ЗША утаргаваць большыя ўплывы на багацці арабскіх краін.

### У ЕГІПЦЕ

У Егіпце напружанае становішча. Тут можна заўважыць чаканне на новую агрэсію Ізраіля, які можа імкнуцца сілаю адкрыць, закрыты зараз, Суэцкі канал. Гэта прымусіла прыняць адпаведныя сродкі. З гарадоў, якія знаходзяцца ў зоне канала, эвакуіраваны консульствы, закладаюцца міны, будуюцца ваенныя ўмацаванні. Паветраны абшар зоны, як і сталіца Каір, з'яўляюцца пад безупынным аховай рэактыўных самалётаў, якія знаходзяцца ў паветры. Асноўныя намаганні пайшлі ў напрамку рэарганізацыі арміі. Перш за ўсё былі адсунуты ад улады недалужныя штабныя камандзіры. Лік гэтых афіцэраў праўдападобна выносіць 600 чалавек.

### ІЗРАІЛЬ — В'ЕТНАМ

Адна з амерыканскіх авіяцыйных фірм заахвяравала ізраільскаму міністру вайны Даяну 400 самалётаў на тое, каб потым паказаў, як трэба ваяваць у В'етнаме. Неабходна дадаць, што быў ён тут у 1966 годзе і хваліў амерыканцаў дадаючы, што не ўмеюць яны зацісну́ць шнурка на шыі в'етнамцаў.

### МІТРАПАЛІТ АБ АЛІЛУЕВАЙ

Як адносіцца руская праваслаўная царква да рэлігійнай прыналежнасці **Святланы Алілуевай** адказвае **мітрапаліт Круціцкі і Каламенскі - Пімен:**

...Жанчына, якая мела некалькіх мужоў, пакінула сваіх дзяцей, стала здраднікам свайго народа, хоча штосьці гаварыць аб рэлігіі і веры ў Бога... Выказванні Святланы Алілуевай сведчаць аб тым, што яны напоўнены хлуснёй. Яна гаворыць, напрыклад, што некалькі год таму была хрышчана ў адной маскоўскай царкве і што гэта вельмі ўздзейнічала на яе ўнутраную перамену. Аднак з яе цяперашніх выказванняў відаць, што і зараз яна не ведае, да якой рэлігіі і царквы належыць... Што датычыць сцвярджанняў Алілуевай аб прыналежнасці да рускай праваслаўнай царквы, дык і гэта з'яўляецца крывадушнасцю, якая скрывае варожасць да царквы падобнай крывадушнасці Іюды, які, не адлучаючыся ад апостальскага ліку, быў ворагам свайго настаўніка... А. К.

## БССР

### ФЕСТЫВАЛЬ

У Мінску адбыўся фестываль беларускай самадзейнай творчасці, прысвечаны 50-годдзю Савецкай улады. Галёвы канцэрт аматарскіх гурткоў адбыўся ў Беларускім Вялікім тэатры оперы і балета.

На канцэрце прысутнічалі кіраўнікі Беларусі — П. Машэраў, Т. Кісялёў, У. Лабанок, С. Пілатовіч, Ф. Сурганаў, Д. Філімонаў, І. Клімаў.

### МІНСКАГА

Адбыўся пленум Мінскага гарадскога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі. Пленум разглядаў пытанні дасканалення працы з кадрамі. Напрыклад, у прамысловых і будаўнічых фірмах устаноўлена парадак такі: перад тым, як выдаць загад аб назначэнні або перамяшчэнні кіруючага работніка, гэтая справа абавязкова разглядаецца ў адпаведным партыйным органе. Шмат гаварылася аб патрэбе больш смелага высоўвання новых і маладых людзей на кіруючыя пасады. За бюракратычны падыход да кадраў востра скрытыкавана некаторых кіруючых работнікаў.

### ЛЮБЛІНСКАГА

Брэст наведала група сакратароў Паветовых камітэтаў ПАРП з Люблінскага ваяводства. Знаёміліся яны з дасведчаннем у дзейнасці гарадскіх і раённых камітэтаў беларускай партыі.

### НОВАЯ

На Беларусі паявілася новая газета — «Связист Белоруссии» — арган беларускага Міністэрства сувязі і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў сувязі, рабочых аўтамабільнага транспарту і шасэйных дарог.

### НАРАДА

У Мінску адбылася ўсесаюзная нарада нафтавікоў. У нарадзе прыняў удзел сакратар ЦК КП Беларусі Д. Філімонаў.

### ЖЫНОВІЧ

За заслугі ў развіцці савецкага музычнага мастацтва і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння ўзнагароджана галоўнага дырыжора Дзяржаўнага народнага аркестра Беларусі, Язэпа Жыновіча, ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Указ аб узнагароджанні падпісаў Н. Падгорны.

### МЁД

Сярод беларускіх пчаляроў найбольш слаўнымі аказаліся пчаляры саўгаса «Круча» на Магілёўшчыне. Саўгас гэты сёлета стаў удзельнікам Усесаюзнай выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве.

### УПЕРШЫНЮ

У выніку дзесяцігадовай працы вялікага аўтарскага калектыву Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР будзе выдадзены двухтомнік акадэмічнай нарматыўнай «Граматыкі беларускай мовы». Выйшаў у свет ужо першы том гэтай капітальнай працы.

«Граматыка» з'яўляецца першай у гісторыі беларускага мовазнаўства капітальнай працай па гэтаму пытанню. Першы том прысвечаны аналізу марфалагічнай сістэмы, акцэнтавым нормам і словаўтварэнню. (С. Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ТЫДЗЕНЬ САЛІДАРНАСЦІ

20 ліпеня з'яўляецца гадавінай жэнеўскіх дагавораў. У сувязі з тым ад 10 да 20 ліпеня адзначаецца будзе ў нашай краіне тыдзень салідарнасці з В'етнамам. З гэтай нагоды ў прадпрыемствах адбываюцца сходы і мітынгі, на якіх рабочыя маніфестуюць сваю салідарнасць і падтрымку для в'етнамскага народа, які змагаецца супраць агрэсіі ЗША.

### ТРУСКАЛКІ

Колькасць трускалак у продажу ў гэтым годзе была значна вышэйшай чымсці ў мінулым годзе. У мінулагоднім сезоне продана каля 35 тысяч тон трускалак, тым часам ужо да першых дзён ліпеня гэтага года продана амаль 38 тон.

Гандаль інфармуе, што на днях паяўляцца ў продажу памідоры з імпарту (асабліва з Балгарыі, Румыніі і Албаніі), якіх будзе значна больш чымсці ў мінулым годзе.

### ПЕРАД ЖНІВОМ

Напярэдадні жніва сельскагаспадарчыя гурткі маюць у распараджэнні каля 61 тысячы трактараў, 32 тыс. снапавязалак, 660 камбайнаў і звыш 40 тысяч малатарняў. З прыладаў гэтых будзе магло скарыстаць 27 тысяч вёсак. Рацыянальнае іх выкарыстанне забяспечыць правядзенне жніва на абшары каля 1,7 млн. гектараў.

Надалей аднак, як і ў мінулым годзе, запатрабаванне гаспадароў на сельскагаспадарчыя машыны будзе вышэйшае, чымсці магчымасці яго забеспячэння.

### ПОЛЬШЧА — КІТАЙ

У рамках падпісанага з Кітаем дагавору прадбачваецца, што Польшча будзе экспартаваць у кітайскую рэспубліку караблі, абсталяванні да электрастанцый, будаўляныя машыны і матоцы. З Кітая імпартаваць будзем розныя сыравіны, чай, шоўкавыя тканіны і іншыя.

### АТРАДЫ ПРАЦЫ

Звыш 50 тысяч моладзі ўступіла на час канікулаў у рабочыя атрады («гуфцы») працы ЗМС і ЗМВ. Каля 20 тысяч гэтай моладзі працаваць будзе ў ПГР-ах паўночных ваяводстваў, а каля 15 тысяч — у лясной гаспадарцы.

### ЛЕС

У пасляваенны перыяд засаджана лесам каля 3 мільёнаў гектараў зямлі. Плошча лясоў пабольшылася на 5%. Нягледзячы на гэта выруб лесу перакрочыў дазволеную норму на 20 працэнтаў. У бліжэйшых гадах прадбачваецца абмежаванне вырубу.

### ПІЛЮЛІ

Пасля двухгадовых доследаў сцверджана, што антыканцэпцыйныя пілюлі англійскай прадукцыі ўдачныя і не маюць шкоднага для арганізму дзеяння. У сувязі з тым еленягурскае прадпрыемства прыступае да прадукцыі гэтых пілюль. Пакажуцца яны ў продажу ў наступным годзе.

## ВАЯВОДСТВА

### КАЎНАСКІ

На запрашэнню прафсаюзнай арганізацыі Беласточчыны наведаў наша ваяводства літоўскі калектыў народнага танца «Суктыніс» з Каўнаса. Калектыў выступіў у Беластоку, Сэйнах і Гайнаўцы. Літоўскія артысты наведалі Варшаву.

З рэвізітам выедзе ў Каўнас мастацкі калектыў беластоцкіх прафсаюзаў.

### СПАБОРНІЦТВЫ

Па ініцыятыве беластоцкай паляўнічай арганізацыі адбыліся ў Беластоку спаборніцтвы паляўнічых. У спаборніцтвах удзельнічала 42 паляўнічых.

Ва ўрачыстым адкрыцці спаборніцтваў удзельнічаў першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП, Аркадзь Лашэвіч.

### ДЭЛЕГАЦЫЯ

Першы сакратар ВК ПАРП А. Лашэвіч прыняў дэлегацыю арганізатараў прафсаюзнага чэмпіянату Польшчы па лёгкай атлетыцы.

Чэмпіянат адбудзецца ў канцы гэтага месяца ў Беластоку.

### МАСТАКІ

У Варшаўскім Доме мастака адбудзецца выстаўка прац беластоцкіх мастакоў — Ежы Лянгевіча, Мікалая Валкавыцкага і Стэфана Рыбі. Варта дадаць, што Стэфан Рыбі з'яўляецца графічным рэдактарам нашай «Нівы», што з прыемнасцю адзначаем у гэтым месцы.

### ШКОЛА

У Нараўцы (Гайнаўскі павет) будзе адкрыта двухгадовая сельскагаспадарчая школа з паўінтэрнатам. Будуць прыняты да яе ўсе ахвотныя дзяўчаты і хлопцы, што закончылі 8-міклясавую пачатковую школу.

### ПАЖАР

Пажар лесу меў месца ў надлясніцтве Крынкі на Сакольшчыне. Агонь знішчыў паўтара гектара лесу.

### БЯСПЛАТНА

У Беластоцкім Аэраклубе адбываліся вакацыйныя абучальныя лагеры авіяцыйнай ваеннай падрыхтоўкі. Абучэнне ў лагеры бясплатнае, пад наглядам найлепшых інструктараў.

Тыя, хто прайшоў абучэнне, могуць старацца аб прыём у афіцэрскія лётчыцкія школы.

### СОМ

Беластачанін Францішак Банда злавіў у рацэ Бобра каля Асоўца вялізнага сома, які важыў 16 кг — даўжыня сома 134 см. Банда лавіў спінінгам на вагальны бліск.

### ЦЫЛЬВІК

Беластоцкі спартсмен у падводным плаванні Т. Цыльвік удзельнічае ў міжнародных спаборніцтвах па гэтай канкурэнцыі, што адбываюцца ў заходняй Еўропе.

### ТРУСКАЛКІ

На Беласточчыне з кожным годам штораз больш трускалак. Да гэтага часу гандлёвыя арганізацыі закупілі на Беласточчыне каля двух тысяч тон гэтай смакавітай і карыснай гароднікі. Найбольш трускалак закуплена ў Аўгустове. (ся)




**Niedziela 16.VII.**

10.40 Program dnia. 10.45 „Przypominamy, radzimy”. 11.00 Sprawozdanie sportowe. 12.05 Wiadomości dziennika. 12.15 „Contentin” — film franc. 12.30 PKF. 12.40 TELEFERIE: „Harcerski trójmecz”. 13.40 „Przemiany”. 14.10 „Lekarstwo na miłość” — film. 14.35 „Dziewczynka i echo” — film fab. radz. 15.40 „Ten pierwszy” („Ludzie i zdarzenia”). 15.55 „Wielka gra”. 17.00 Sprawozdanie z półfinału Pucharu Europy Kobiet w lekkiej atletyce (Wuppertal — NRF). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 „Ze świata westernu” — film USA. 20.55 Program rozrywkowy (Praha — Łódź). 21.55 Niedziela Sportowa.

**Poniedziałek 17.VII.**

17.15 Wiadomości dziennika. 17.20 Dla młodych widzów: „Tak odpoczywamy” — rep. z obozu pionierskiego na Łużnikach. 17.50 Kino Krótkich Filmów. 18.20 „Eureka”. 18.50 „Uwięzieni” — program dokument. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Pan pułkownik ma nadzieję” — rep. film. z Wietnamu R. Sujeckiego. 20.30 IV TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: A. Czechow „Mewa”. 22.10 Dziennik TV.

**Wtorek 18.VII.**

10.00 „Wiano” — film fab. pol. 11.35 Przerwa. 17.10 Program dnia. 17.15 Telekram. 17.25 Wiadomości dziennika. 17.30 TELEFERIE: 1. TV Kronika Podwórkowa, 2. „Przygody Robin Hooda” — film, 3. „Turniej o Żółtą Żyrafę” (Katowice). 18.50 „Przegląd muzyczny”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Nad Odrą a Bałtykiem”. 20.35 „Wiano” — film fab. pol. 22.10 „Melpomena na zamku” („Profile kultury”) 22.45 Dziennik TV.

**Środa 19.VII.**

10.00 „Czekajcie na listy” — film fab. radz. 10.50 Przerwa. 17.15 Program dnia. 17.20 PKF. 17.25 Wiadomości dziennika. 17.30 „Nie tylko dla pań”. 17.55 Wszechnica TV: „Śródmieście” („Spacerki Warszawskie”). 18.30 Otwarcie Centralnej Spartakiady w gimnastyce. 19.25 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Listy Lenina o sztuce” — program muzyczny. 20.35 „O życie wroga” — fil. tv („Podziemny front”). 21.00 „Światowid”. 21.30 „Alcatraz express” — film tv USA cz. II. 22.20 Dziennik TV.

**Czwartek 20.VII.**

17.30 Program dnia. 17.35 Wiadomości dziennika. 17.40 „Medale i detale”. 18.00 „Poligon”. 18.30 „Hiszpania — 1936” — program muzyczny. 19.05 „Oszukany Pantalone” — film CSRS. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Po szóstej” — TV Klub Młodzieżowy. 20.45 Teatr Sensacji: „Odessa” I odc. („Pajęczyna”). 21.50 Dziennik TV.

**Piątek 21.VII.**

10.00 „O.K. Kleopatro” — film fab. ang. 11.30 Przerwa. 17.00 Program dnia. 17.05 Program tygodnia. 17.25 Wiadomości dziennika. 17.30 TELEFERIE: 1. „Z wodą za pan brat” — rep., 2. „Przygody Robin Hooda” — film, 3. „Pierwsza Pomoc Wakacyjna”. 18.45 „Ten pierwszy” — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.00 TV Kurier Mazowiecki. 20.15 „Sen srebrny Salomei” — dramat J. Słowackiego. 22.05 Dziennik TV. 22.20 „O.K. Kleopatro” — film fab. ang.

**Sobota 22.VII.**

12.00 Uroczysta „Zmiana warty” przed Grobem Nieznanego Żołnierza w Warszawie. 12.15 Wiadomości dziennika. 12.30 „YANCO” — film fab. meks. 14.00 Dla dzieci: T. Petrykowski — „Piernikowy błazen”. 14.50 „Marynarka to męska przygoda” — film estradowy pol. 15.30 Tele-Echo. 16.15 Półfinał Pucharu Europy mężczyzn w lekkiej atletyce (Ostrava). 18.20 „22 lipca — Polska” — program muzyczno-rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.05 Teatr TV: „Tylko dla was bitwy przeżyliśmy”. 20.45 Dziennik TV. 21.15 Wiadomości sportowe. 21.35 „Spotkanie ze szpiegiem” — film fab. pol.




**14 lipca**

16.40 Program dnia. 16.45 Dziennik. 16.50 Program dla uczniów. 17.40 „Bohaterski szlak walki i budownictwa”. 18.00 Dziennik. 18.30 Dekada amatorskiej twórczości artystycznej szkół Białorusi. 19.30 „Sztafeta nowin”. 20.30 Mały koncert. 20.55 50-lecie władzy radzieckiej. 21.35 Film fabularny: „Im było osiemnaście lat”. 23.20 Dziennik sportowy.

**15 lipca**

13.50 Program dnia. 13.55 Dziennik. 14.00 Tydzień Kirgiskiej SRR. 14.25 „Biała maszynka” — audycja dla młodzieży. 15.20 „Bogactwo twojej duszy” — audycja dla młodzieży. 16.00 Soliści operowi. 16.45 Lenin w Rozliwie. 17.00 Klub kinoamatorów. 18.00 Dziennik. 18.30 Dekada amatorskiej twórczości artystycznej szkół Białorusi. 20.30 Film fabularny: „Tunel”. 22.00 W rytmie jazzu. 22.30 Expo-67. 22.40 Dziennik sportowy.

**16 lipca**

9.55 Program dnia. 10.00 „Budzik”. 11.00 Muzeum im. Puszkina. 12.10 „W obozie — święto” aud. dla uczniów. 12.40 Audycja dla wojska. 13.00 Tydzień Kirgiskiej SRR. 13.30 Kiosk muzyczny. 14.00 Dzień Metalowca. 15.00 „Cztery dni w pionierskiej republice” audycja dla uczniów. 15.50 50-lecie władzy radzieckiej. 16.30 „Pelengager” — audycja satyryczna. 17.00 „Polowanie Aloszy” — film fabularny. 18.00 Otwarcie ogólnozwiązkowej spartakiady uczniów. 20.45 Dziennik. 21.00 Tydzień Kirgiskiej SRR. 22.00 „Młodość”.

# Семяноўскі фестын



На здымку гурток БГКТ з Гайнаўкі.

На пляц школьны пачатковай школы ў Семяноўцы 18-га чэрвеня сабралося многа людзей. Тут пры ўваходзе на школьны панадворак віднее вялікае чырвонае палотнішча з надпісам «Вітаем удзельнікаў беларускага фестыну». Другое палотнішча вісіць на сцяне школы над сцэнай зробленай з дзвюх прычэп, на ім напісана: «Новымі поспехамі і дасягненнямі вітаем 50-годдзе Вялікага Кастрычніка».

Вось менавіта пад гэтым лозунгам праходзіў фестын БГКТ, арганізатарам якога быў Гайнаўскі аддзел БГКТ і актыў Семяноўскай грамады.

Урачыстасць адкрыў старшыня ГРН у Семяноўцы Міхась Васільчук, а даклад аб значэнні Кастрычніцкай рэвалюцыі чытаў старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк. Пасля яго выступлення пачалася мастацкая частка аматарскіх калектываў Гайнаўскага гарадскога гуртка БГКТ і беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. На беларускі фестын прыехала таксама з канцэртам эстрада ГП БГКТ «Лявоніха».

Фестын быў свайго роду днём беларускага слова і беларускай песні. Тут прадаваліся таксама выданні ГП. Карысталася поспехам кніжная латарэя. Нараўскі ГС забяспечыў фестын аранжадай, півам і харчовымі прадуктамі. Пад вечар урачыстасць гэта перанеслася да мясцовай святліцы, дзе пад музыку аркестра да самай раніцы працягваліся танцы.

**М. Хмялеўскі**

*Беларусіяна*

## ГАНЧАРЫ

У III томе выдання «Zeszyty Etnograficzne muzeum kultury i sztuki ludowej w Warszawie» беластоцкі этнограф Яанна Мацееўская надрукавала артыкул пад загалоўкам «Лук'янскае ганчарнае рамяство», у якім аналізуе ганчарнае рамяство ў вёсцы Лука, Гайнаўскага павета. Аўтар аналізуе гісторыю ганчарнага рамяства ў гэтай вёсцы, тэхніку вырабу гаршкоў — спосаб іх распаўсюджвання і прымянянне ў хатняй гаспадарцы вёскі.

З цікавейшых сцверджанняў Мацееўскай аднатуйма, што якасць лук'янскіх гаршкоў у апошнія гады значна панізілася з увагі на адсутнасць канкурэнцыі і што ў Луцэ няма аніводнага з маладых людзей, хто б хацеў працягваць традыцыю лук'янскага ганчарства. (п)

# ЛЕТНІЯ КУРСЫ: КАМУ?

ЗМВ арганізуе ў летні час розныя курсы, спалучаныя з адпачынкам над азёрамі ў ваколіцах прыгожага Элка і Аўгустова. Штогод ёсць вялікія цяжкасці з наборам ахвотных актывістаў ЗМВ, якія павінны ўдзельнічаць у такіх курсах. Вядома, у час жніва і вялікіх прац у полі не ў галаве вясковай моладзі летні адпачынак. Застаецца толькі здзіўляцца, чаму ЗМВ арганізуе такія курсы якраз у летні час, а не, скажам, зімою. Зімою ў Аўгустове не менш прыгожа, чым вясною — стройныя лясы і марозны глыбокі снег ствараюць непаўторнае хараство.

Апрача таго, можна было б неяк выстарацца пры дапамозе цэнтральных улад, каб арганізаваць курсы таксама ў горных турыстычных ваколіцах зімовых Татраў, Судэтаў ці Крыніцы.

(ся)




У гэтым годзе Мінск, сталіца Беларусі, святкуе сваё 900-годдзе. Юбілей выпаў у шчаслівы час. Надрукавана вялікімі тыражамі шмат кніжак аб Мінску, яго мінулым і сучаснасці — а разам з тым і аб Беларусі наогул. Вось тыя кніжкі, з якімі меў я магчымасць пазнаёміцца:

**«Гісторыя Мінска»,** выданне Беларускай Акадэміі навук; **«Горад і годы»,** укладу Ул. Карпава, надрукавана ў выдавецтве «Беларусь»; **«Минск»,** рэч напісана беларускімі архітэктарамі, надрукавана ў Маскве; **«Мы расскажем о Минске»,** пераклад з беларускага, другое, перапрацаванае і дапоўненае, выданне выдавецтва «Беларусь»; **«Мінск»,** фотааповесць аб 900-годдзі сталіцы, з тэкстамі на рускай і беларускай мовах; **«Мінск»,** каляровае выданне тыпу «даведнік» — і камплект паштовак аб Мінску.

Гэтыя выданні аб Мінску ўжо даўно былі патрэбны. Дзякуючы ім адчуваецца неяк больш інтымна, скажам, сталічнасць Мінска; пачынаеш глядзець на гэты горад зусім-зусім іншымі вачыма, і здаецца ён горадам-сімвалам чагосьці сваяцкага, блізкага.

«Гісторыя Мінска» — гэта даволі салідная навуковае выданне, якое месцамі залішне перасычанае ўжо надакучлівымі, прытым тыпова публіцыстычнымі каментарыямі. У падраздзеле, дзе ідзе гаворка аб культурным супрацоўніцтве, м. ін. аб супрацоўніцтве паміж польскімі і беларускімі мовазнаўцамі, аб дыялекталагічных экспедыцыях, няма ўвогуле ні слова пра Беласточчыну. Аўтар раздзела (В. Мялешка) не мог не ведаць хаця б таго, што гэтыя экспедыцыі вывучалі беларускія дыялекты Беласточчыны.

**Кніжка «Горад і годы»** якраз тая кніжка, якая пакідае найбольшае ўражанне — і якая, мабыць, была патрэбнай перад усім! На яе першых старонках пранікнёна напісаны «Горад паўстае», гістарычны рэпартаж пяра Уладзіміра Караткевіча і Адама Мальдзіса. Пішуць аб паўстанні 1863—1864 г. на Беларусі, на Міншчыне. Колькі тут свежага, новага, гераічнага, расказанага без абцёпкана-вялікіх слоў! З падобным пачуццём чытаецца матэрыял «Беларуская хатка» Яўгена Рамановіча, успаміны Рамана Сабаленкі аб сустрэчы з Чарвяковым — гэтым надзвычайным чалавекам у беларускай кампартыі. Чытаецца ўсё неяк з гордасцю і... смуткам.

Фотааповесць «Мінск» цікавая з увагі на змешчаныя архіўныя здымкі. Упершыню пабачыў фота прэм'ера Беларусі пачатку 30-ых гадоў, М. Галадзеда, чалавека, аб якім я, што не памятаю нават пачатку II-ой сусветнай вайны, многа добрага чуў ад людзей.

У даведніку «Мінск» месцамі робяцца непрыемнымі штампавыя, надуманыя подпісы пад здымкамі. Але гэта, бадай, грэх усіх даведнікаў на свеце.

Вядома, усе крытычныя заўвагі маюць другараднае значэнне ў агульнай вартасці гэтых як жа патрэбных выданняў.

**С. Яновіч**

# ТЫТУЛ: кваліфікаваны гаспадар

Апрача звычайных курсаў масавага сельскагаспадарчага навучання, у будучым навучальным сезоне 1967/68 г. будуць арганізаваны *кваліфікацыйныя курсы індывідуальным гаспадарам.* На пачатак — для спробы — будзе арганізавана ўсяго сорак такіх курсаў у Беластоцкім ваяводстве — *па два* курсы ў кожным павеце. Гэтыя курсы будуць арганізаваны ў тых мясцовасцях, дзе ўжо адбыліся звычайныя двухгадовыя сельскагаспадарчыя курсы.

Каб паступіць на такі курс, гаспадар павінен мець закончаных сем класаў пачатковай школы і мець за сабою найменш чатырохгадовы стаж працы на гаспадарцы.

Каб мог адбыцца такі кваліфікацыйны — таксама двухгадовы — курс, *павінна знайсціся ахвотных не менш, чым 15 гаспадароў.* На заканчэнне курсу адбудзецца *дзяржаўны экзамен,* і тыя гаспадары, якія здадуць экзамен, атрымаюць *дыпломы кваліфікаванага гаспадара.* Прапануецца ўвясці тытул *гаспадар-майстра.*

Усё гэта павінна паспрыяць павышэнню рангі і годнасці гаспадарскай прафесіі — ну, і вядомая рэч, павышэнню ўзроўню нашай сельскай гаспадаркі.

Першыя такія курсы запланавана арганізаваць ужо ў месяцы лістападзе г. г. (ся)




## ВЯЧЭРНІ КЛОПАТ

Паездка па цёмных вуліцах была ўжо чацвёртай у гэты дзень, і павінны былі адбыцца яшчэ дзве, раней чым яны змогуць легчы спаць. У «Калізеі» Джэк Валенці, х'юстанскі дзялок, якому была даручана арганізацыя прыёму ў яго горадзе, ніяк не мог дагаварыцца з агентамі сакрэтнай службы. Яны патрабавалі, каб ён прад'явіў пропуск у Белы Дом. У яго пропуска не было. Калі б не ўмяшаліся двое х'юстанскіх паліцэйскіх і не засведчылі асобу Валенці, яго б, нягледзячы на ўсе пратэсты, выправадзілі. Апынуўшыся ў будынку, ён адчуў сябе свабодна ў лабірынце пераходаў і ўхітрыўся быць адзіным чужым у пакоі адпачынку, падрыхтаваным для прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта. Ярбара і Конэлі нямала далі б, каб даведацца, як гэта яму ўдалося. Ён заставаўся там у той час, як Кенедзі з жонкай і Джонсан з жонкай чакалі, пакуль прысутныя скончаць са сваімі куранятамі павіргінску. Калі прэзідэнт і віцэ-прэзідэнт са сваімі жонкамі ўселіся за галоўным сталом, ён прабраўся ўслед за імі. Для яго не аказалася месца, і Валенці ўладкаваўся на падлозе пад самымі нагамі ў прэзідэнта, накшталт суфлёра «Метрапалітэн-опера».

Адзін за адным са сваіх месц узніміліся вядомыя прамоўцы, адкашлівaліся, гаварылі, ім апладзіравалі, яны садзіліся. Прэзідэнт не стаў гаварыць прыгожых слоў. Большая частка яго прамовы складалася са статыстычных даных. Сядзеўшым у зале яго манера здавалася зусім натуральнай. Вельмі нямногія ведалі, з якой упартасцю ён дабіваўся гэтага эфекта ў бостанскай школе Стэйлі, дзе вывучаў сакрэты прамоўніцкага майстэрства. Калі ён быў на трыбуне, стваралася поўнае ўражанне, што ён гаварыў экспромтам; яго маглі выдаць толькі рукі, і ён старанна хаваў іх ад аўдыторыі. Але вось Валенці іх бачыў. Яны былі якраз над ім і часам вельмі дрыжалі. Час ад часу правая рука ўзлятала ў вышыню і наперад, і яе ўказальны палец рассякаў паветра, падкрэсліваючы словы прэзідэнта. Але варта было ёй апусціцца, як дрыжыкі пачыналіся зноў...

Пасля 9.30 вечара яны ўсталі з-за стала, але змаглі адпачыць, толькі трапіўшы ў атэль у другім горадзе — Форт-Уорце.

На атэлі «Тэхас» буйнымі літарамі было напісана: «Сардэчна запрашаем, пан прэзідэнт». Вестыбюль быў запоўнены людзьмі ў крэмавых шыракаполых капелюшах, якія штурхаліся і гудзелі. Нумар, адведзены для прэзідэнта, быў меншы і таннейшы, чым для віцэ-прэзідэнта. «Увесь парадак размяшчэння групы ў атэлі, — расказваў пазней Кен О'донел, — быў зменены на-хаду».

Калі Джон і Жаклін Кенедзі ўжо спалі ў нумары 850, большасць тых, хто суправаджаў іх у паездцы, усё яшчэ былі на нагах. Пяццю паверхамі вышэй, у больш прасторным нумары, Ліндан Джонсан весела балакаў са сваімі сябрамі. У кафэ, размешчаным побач з вестыбюлем атэля, Конэлі на працягу некалькіх гадзін прымаў сваіх яму аб раздражненні Ярбара, і Конэлі гасцей. Рэпарцёр Боб Баскін расказаў выступіў з заклікам да згоды.

Некалькі агентаў сакрэтнай службы былі на сваім пасту. Змена, якая заступіла ў 12 гадзін, павінна была несці ахову нумара 850 да 8 раніцы. Іншыя ўжо спалі. Але дзесяць агентаў без ведама Роя Келермана, пад кіраўніцтвам якога яны былі ў час гэтай паездкі, накіраваліся ў горад. Спачатку яны пілі піва і кактэйлі ў прэс-клубе Форт-Уорга разам з памочнікам прэс-сакратара Кілдафам. Потым сямёра з іх прадоўжылі гэту справу ў каларытнай установе пад назвай «Паграбок», заказаўшы там безалкагольны фірменны напітак. Адзін з іх прыбыў там да 5 раніцы. У ліку яго сабутэльнікаў у гэтыя ранішнія гадзіны аказаліся і чатыры агенты, якія павінны былі ехаць па вуліцах Даласа ў машыне, што ішла за прэзідэнцкай, і ад пільнасці якіх непасрэдна залежала яго бяспека. У розны час да іх далучыліся тры агенты начной змены, якія афіцыяльна знаходзіліся пры выкананні службовых абавязкаў і павінны былі ахоўваць дзверы прэзідэнцкай спальні, але палічылі за лепшае развеяць сум гэтага абавязку такім чынам.

22 лістапада, у 7 гадзін 30 мінут раніцы, у Форт-Уорце няспешны камердзінер прэзідэнта ўвайшоў у нумар 850 атэля «Тэхас» і пастукаў у дзверы спальні свайго гаспадара.

# Большасць слаўных людзей гіне заўчасна і ненатуральна

Пераглядаючы біяграфіі вялікіх людзей бачым, што нямногія спасярод іх памерла смерцю натуральнай.

Вялікі хімік французскі Лавуазье маючы 51 год аддаў галаву пад тапор ката падчас Вялікай рэвалюцыі. Слаўны іспанскі мастак Мурыльо ў 62 годзе свайго жыцця, упаўшы з рыштаванняў, забіўся. Паэт Шэлі купаючыся ўтапіўся не скончыўшы нават 30 гадоў. Э. Заля пакончыў самагубствам у 62 годзе. Геніяльныя паэты: Пушкін — 38 гадоў і Лермантаў — 27 гадоў поўныя творчых сіл і красы сваёй маладосці загінулі на дуэлі. Ведамы польскі кампазітар М. Карловіч засыпаны лавінай снегу ў Татрах у 33 гады.

Шмат таксама памерла на вядомую і неапанаваную медыцынай да гэтага часу хваробу — рака ў гадах ад 50—65: Напалеон, Брамс, Тургенеў і апошні Дзіснэй. Вялікае спусташэнне зрабілі і сухоты, забіраючы заўчасна Шапэна — 39 гадоў, Славацкага — 40 гадоў, Шылера — 46, Дастаеўскага — 60 і нашага слаўнага Багдановіча, які меў толькі 26 гадоў. Ахвярай паралічу былі: філосаф Ніцшэ гадоў 56, кампазітары Смэтана — 58 гадоў і Даніцэці — 51 год, а таксама французскі пісьменнік Мапасан, які меў толькі 43 гады.



На туберкулёз пазваночнікаў памерлі Гейнэ — 59 гадоў і Гофман гадоў 46. Невылечным алкаголікам быў паэт Вэрлен, які памёр у 53 годзе жыцця.

Апанаваныя вар'яцтвам засталіся: Гогаль у 43 годзе свайго жыцця і Эдгар па 40-ым годзе. Моцарт памер на запаленне нырак маючы ўсяго гадоў 35. Астраном Кэплер на грып у 59 годзе. Штраус на запаленне лёгкіх у 45 гадоў, а на атак сэрца Бальзак — 51 год і Жаромскі — 61 год. Мела свае ахвяры і эпідэмія халеры, на якую памерлі: Міцкевіч у 57 гадоў, Гэгель — 61 і Чайкоўскі — 53 гады. А малярыя забрала паэта Байрана гадоў 36 і мастака Дзюрэра ў 57 годзе жыцця.

Пададзеная тут колькасць вядовых свету прозвішчаў не з'яўляецца камплектнай, але і з гэтага бачым, што смерць гвалтоўная мела вялікае жніво сярод абдараваных геніюшам людзей.

Апрацаваў **П. Ластаўка**

**БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ**



**Абласная бібліятэка імя А. Карскага ў Гродне. Фота Я. Краўчэнка. (Матэрыял арганізаваны для нас «Гродзенскай праўдай»).**

### СМЕРЦЬ НА ДАРОГАХ

Вайна паміж Прусіяй і Францыяй у 1870/71 г. каштавала менш забітымі, чым наглядаецца гэта цяпер у нямецкім дарожным транспарце на працягу няцэлых трох месяцаў. Падлічана, што ў 1965 годзе на дарогах Нямеччыны загінула пятнаццаць тысяч асоб і паўмільёна асоб было параненых. На працягу дзесяці год, ад 1950 да 1960 г., на нямецкіх дарогах загінула сто тысяч чалавек і тры мільёны было параненых.

(ся)

### СВОЕАСАБЛІВЫ СПІС

У Францыі ўведзена спіс шафёраў, якія дапусціліся парушэнняў правілаў дарожнага руху. Шафёры, якія трапілі ў гэткі спіс, падзелены на чатыры катэгорыі.

Шафёр, што трапіў у спіс, калі на працягу трох гадоў не «узбагаціць» сваё конта новымі парушэннямі правілаў руху, можа прасіць, каб выкрэсліць яго прозвішча з гэтага «чорнага» спісу.

Такі спіс прыдаўся б і ў нас...

(ся)




### ЗІХАТЛІВЫ БЛЯСК КАСТРУЛІ

Каб засцерагчы алюмініевы посуд ад пацямнення, змажце яго сценкі тлушчам, а затым некалькі разоў пракіпяціце ў ім ваду ці малако. Мыюць таксама міскі, каструлі і г.д. гарачай мыльнай вадой, а вельмі забруджаныя — слабым растворам шчаўевай кіслаты. Можна пачысціць іх крэйдай, прасеяным попелам. Ні ў якім выпадку нельга ўжываць парашкі і пасты, якія ўтрымліваюць шчолачы, — ад іх алюміній чарнее. Можа пашкодзіць яго пясок ці наждак.

Накіп у чайніках або каструлях з алюмінію знімаецца, калі пракіпяціць ў іх слабы раствор воцатнай кіслаты. Для выдалення накіпу з эмаліраваных каструль і чайнікаў пракіпяціце ў іх слабы раствор соды або воцатнай эсенцыі, а затым пратрыце паверхню мачалкай або шчоткай.

### ЦІ БЕССМЯРОТНАЯ КАМБАЛА?

У акварыумах Далёкаўсходняга Інстытута біялагічна актыўных рэчываў наваселле. Сюды пасялілі ціхаакіянскую камбалу. Вучоныя пачалі работу над даследваннем узроставага змянення саставу нуклеінавых кіслот гэтай рыбы.

Навуковыя доследы ставяцца з мэтай раскрыць тайну здзіўляючай асаблівасці, якая назіраецца ў камбалы: яна, як сцвярджаюць, бессмяротная. Вучоныя лічаць, што камбала гіне толькі ў выніку «няшчасных выпадкаў», паколькі яна з'яўляецца любімай ежай многіх марскіх рыб і жывёл.

Калектыў лабараторыі на чале з маладым вучоным Генадзем Бердышавым вядзе таксама цікавыя даследванні з ціхаакіянскімі ласосямі. У адрозненне ад камбалы гэта рыба нібы нясе ў сваім арганізме «запраграміраваную гібель». Дарослыя ласосі, адклаўшы ікру ў горных рэчках Прымор'я або Камчаткі, на гэтым завяршаюць свой жыццёвы цыкл.

# Самалёты саграваюць Зямлю

Паводле праведзеных падлікаў рэактыўныя самалёты, што праводзяць рэгулярныя рэйсы па межкантынентальных трасах, павышаюць тэмпературу зямной паверхні на некалькі дзесятак долей градуса. Гэта адбываецца ў выніку павелічэння ў паветры атмасферы вуглекіслага газа, які дзейнічае падобна шклу ў цяпліцы. Прапускаючы сонечныя праменні, атмасфера лепш утрымлівае цеплавое выпраменьванне з паверхні зямлі. Развіццё рэактыўнай авіяцыі павінна прывесці да далейшага павышэння тэмпературы паверхні нашай планеты.




### У ПАЛЕКА

Сівы прывёў Аню да Палека. Ён правёў яе ў старую лазню.

— Сядзь, дзеўка, — сказаў Сівы і, дастаўшы вялікую хустачку, выцер твар, — сядзь, — паўтарыў ён, запаліўшы свечку.

Аня аглянулася і ўстрасянулася: ля сцяны сядзелі жанчыны, хлопец у крагах і дзяўчына, якая ехала следам за ёй і Мухам на ровары, калі яны ішлі ў лес.

— Сядзь, — паўтарыў Сівы яшчэ раз, — сядзь і адпачні. Тут твае сябры, калі ты — тая дзеўка, якая павінна прыляцець з рацыяй.

— Аб чым вы гаворыце? — паціснула плячыма Аня. — Вы мяне блытаеце з кімсьці.

— Добра, — сказаў Сівы, — не балбачы. Ты гэтых людзей не ведаеш, яны ведаюць цябе.

— Дзе Андрэй?

— Твой Андрэй у абверы.

Аня ўсхапілася.

— Што?!

— Так-так, у абверы, — паўтарыў Сівы.

— Яго арыштавалі?

— Не. Ён стаў іх сябрам.

Аня ўсміхнулася.

— Нешта я не разумею, аб чым вы ўсе гаворыце. Які Андрэй, які абвер? Вы мяне блытаеце, слова гонару. Я цётку шукаю. Цётку з Курска, разумееце?

— Перастань строіць дурнічку. Мы не жартуем, — сказаў Сівы, — мы твае сябры. Мы чакалі вас, нам гаварыў пра вас Андрэй, калі прыляцеў. Гэта дом Палека, гэта ваша яўка. Мы сябры твае, сябры, зразумей.

— Вы мяне з кімсьці блытаеце, слова гонару, — засмяялася Аня, — я жыць не маю дзе, я цётку шукаю. Андрэй мне і даў прытулак.

— Не строй дурня. Ты і іншыя члены вашай групы павінны былі прыйсці да Станіслава Палека, што на Грушовай вуліцы, і перадаць яму прывітанне ад яго сына Ігнацыя, палкоўніка Войска Польскага.

— Я яго сын, — сказаў хлопец у крагах. — Сын Ігнацыя, унук Станіслава. Ты ў нас у хаце.

Аня аглядзела ўсіх людзей, якія сабраліся зараз у гэтай маленькай лазні.

«Перастаньце вы гаварыць пра фізіёнамістыку, — успомніла яна словы капітана Высакоўскага. — Іншы раз такі анёл з фізіі, а ўсё роўна перакананы, што перад табою вораг, сэрца гаворыць...» Аня тады засмяялася і спытала прыгожага капітана: «А сэрца ваша гаворыць пасля таго, як вочы паглядзелі ў вочы, ці не так?» «Не, — адказаў Высакоўскі, таксама ўсміхнуўшыся, — данясенні, яны дакладнейшыя за вочы і сэрца. Сапраўдную гісторыю грамадства напішуць праз шмат год, і гэта будзе найдакладнейшая гісторыя, таму што нашы архівы стануць адкрытымі. І людзі не будуць згадваць, разглядаючы маляваныя ці фатаграфічныя партрэты: добры ён быў ці дрэнны? Яны будуць ведаць усю праўду: і пра нягоднікаў з чыстымі вачыма святых і пра герояў з грубымі тварамі і касназыкай мовай».

— Я не веру вам, — сказала Аня, — вы ведаеце ўсё, але я вам не веру. Ён не мог быць здраднікам!

— Ён мог ім не быць, — адказаў Сівы, — ён ім стаў.

— Ён не мог ім стаць.

— Чаму?

— Таму, што ён наш!

— А мы чые? — спытаў хлопец у крагах. — Нас ты лічыш чыімі?

Сівы сказаў:

— Трэба хутка звязацца з вашым цэнтрам: што рабіць з Андрэем? Браць яго жывым ці ліквідаваць тут жа, пакуль ён большай шкоды не нарабіў.

«Няўжо я не веру гэтым людзям толькі таму, што яны дрэнна гавораць па-руску, а Муха — наш хлопец? — думала Аня, асцярожна прыслухоўваючыся да таго, што ёй гаварыў то Сівы, то ўнук Палека. — Калі гэта так, дык страшна. Муха быў увесь час на сувязі з Бародзіным. Яму верылі ў цэнтры. Нас пасылалі да яго. Але ж нас пасылалі менавіта да яго таму, што ён перадаваў, што мае на сувязі прадстаўнікоў мясцовага падполля. Палека я ведаю, тут яны гавораць праўду. Гэта ведалі Муха, Віхор, Коля і я. А калі радыёперахоп? Калі ўсё гэта цяпер са мною разыгрываюць статысты з гестапа?»

— Запамятай: прамаруджанне раўназначна смерці, — закончыў Сівы.

— Я ў вас, — сказала Аня, — я ў вашых руках. Можаце рабіць са мною ўсё, што захочаце. Я вам не веру! Разумееце вы?! Не веру!

### ВЕЧАР, НОЧ, РАНІЦА

Калі б Берг не папярэдзіў Муху, той абавязкова пайшоў бы ў гестапа: сказаць аб радысцы, якая жыве ў яго. Але палкоўнік прасіў Муху ўсе справы весці толькі з ім.

— Мае сябры з гестапа, — гаварыў Берг, — цяпер заняты іншымі пытаннямі, так што вам я забараняю непакоіць іх. Ясна?

Берг расказаў Мусе план заўтрашняга дня. А дзевятай раніцай праз цэнтральную плошчу Рыбны будзе ісці старая машына. Муха павінен будзе падняць руку. Шафёр папросіць дзесяць

# ТРЫБУНА чытачоў

## ШАНОЎНАЯ «НІВА»

Лічу не лішнім звярнуць сваю заўвагу наконт загалоўка арт. Ул. Паўлючука «Размова з-над рэчкі Супраслі» (№ 25/590), які нязгодны з рэчаіснасцю артыкула, бо вёскі, у якіх вёў свае размовы аўтар, існуюць не над рэчкай Супрасль, але над Свіслаччу, прытокам Нёмана, аб чым асмелюся данесці да ведама шаноўнага аўтара, нізка ўкланіўшыся і верш свой далучыўшы.

Чытай «Ніву» нумар у нумар
Будзеш мець заўсёды гумар.
Тым я «Ніву» ўсё чытаю,
Тым на дзіва гумар маю.
Не но гумар, но й адвагу
Выслаць у «Ніву» заўвагу.

Паводле Паўлючука
«Супрасль» — кожная рака,
З прылад плуг, ці барана,
Яму сатана адна.
А шкада, бо ёсць розніца:
Нагавіцы, ці спадніца.
Погляд мой: Паўлючук у слове,
Быццам немец у рускай мове,
Які, забарані Божа,
Разрозніць ніяк не можа,
Што «собор», то не «забор»,
Што «топор», то не «запор».

**Міхась Красоўскі**
Малынка

## КАНТРАКТАЦЫЯ

Ад новага года ўведзена новыя ўмовы кантрактацыі палявых культур. За мінулую вясну кантрактатары закупілі каля 21 тысячы тон штучных угнаенняў па зніжаных цэнах.

Як вядома, цэны на штучныя ўгнаенні зніжаны толькі тым гаспадарам, якія займаюцца кантрактацыяй палявых, асабліва, збожжавых культур.

(ся)

## КНАРЫДАЎСКІЯ НАРАКАННІ

У Кнарыдах наракаюць, што ўсё у іх вёсцы неяк кепска. Кепскія справы не толькі ў дарослых кнарыдаўцаў і ў іх «кулкаві ральнічым» ...Кепскія справы таксама і ў маладых кнарыдаўцаў: не хочуць і пальцам варухнуць дзеля агульнавясковых спраў, дзеля рэалізацыі грамадскіх чынаў, догляду святліцы і т. д. Ну, што ж: можна сказаць, што дзеці бяруць прыклад з бацькоў.

(ся)

## ВА ЎМОВАХ АКТЫЎНАСЦІ

У Самулках няма ні святліцы, ні клуба, ні тэлевізара. — Але гэта не найгоршае, — кажа мясцовая актывістка Марыся Васілюк. — Найгоршым з'яўляецца безактыўнасць моладзі. А ў нас, у Самулках, няма такой праблемы, тут моладзь шмат дзейнічае — утворана мастацкі гурток, рэпетыцыі адбываюцца па хатах. У школе наладжана прыемную культурную вечарыну.

(ся)

## НЕ СТРЫМАЛІ СЛОВА

На сельскагаспадарчых занятках у Слабодцы (Гайнаўскі павет) сяляне паднялі абавязацельства прыступіць да барацьбы з пустазеллем. Некаторыя адразу прыступілі выконваць гэты важны абавязак. Да іх трэба залічыць А. Зубрыцкую, М. Харкевіч і В. Болтрыка. Але некаторыя сяляне абыякава аднесліся да паднятай пастановы, і зелле вырасла вышэй збожжа. Ці ж бы яны не ведалі, якую шкоду гэтым зрабілі сваім суседзям і, у першую чаргу, самім сабе? Варта, каб тыя, хто падпісаў абавязацельства і не выканаў яго, падумалі і, хоць позна, вырвалі пустазелле, каб не гадаваць шкоднага насення.

**«Чарот»**




## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву я на вёсцы і маю 20 год. Пару месяцаў таму пазнаёмілася з хлопцам з суседняй вёскі. Ён мае ў нашай вёсцы сваякоў і часта прыязджае. Калі толькі прыязджае, заўсёды наведвае мяне. Часта гаварыў, што я яму падабаюся і што ён са мною ажэніцца. Аднаго разу, калі ён быў у мяне ў хаце, прыйшла да нас мая сяброўка, Надзя. Мы з ёю сябруем ад дзіцячых год. Пайшлі мы разам на забаву. На забаве я ўбачыла, што Надзя больш цікавіць Віцю, чым я. Ён нават больш разоў танцаваў з Надзяй. Калі яны пайшлі танцаваць, я пайшла дамоў. Потым даведалася, што Вітэк адводзіў Надзю дамоў і доўга з ёю яшчэ сядзеў на лавачцы пад хатай. Да мяне ўжо не заехаў. Я з Надзяй цяпер не гавару. Бо ці ж сяброўка адбівае нарачонага? Не ведаю, што рабіць, калі ў наступную нядзелю прыедзе Вітэк, ці гаварыць з ім, ці таксама не, як з Надзяй.

**Вера**
з Дуброўшчыны

**Дарагая Вера!**

Сапраўды табе прыкра, аднак ты павінна трымацца ганарліва. Вельмі нядобра, што ты перастала гаварыць з Надзяй. Хоць табе на сэрцы цяжка, аднак на твары не павінна гэтага заўважаць. А калі прыедзе Вітэк і зойдзе да цябе, або падыдзе на забаве, дык ты гавары з ім, як бы нічога і не здарылася. Зрабі ўражанне, што табе на ім не залежыць, на толькі, каб перажываць. А калі б Вітэк прыехаў да цябе і сам пачаў гаварыць аб гэтай справе, тады можаш спакойна выказаць свой погляд на гэтую справу.

**СЭРЦАЙКА**

## ЗА МАРОЖАНЫМ



Марожанае (лёды) робяцца са смятаны і яек. Аднаго і другога ў гаспадароў удосталь. Але марожанае ў вёсцы вялікая рэдкасць. Калі ўжо паявіцца тут прадавец, як вось у мясцовасці Полька, яго будку зараз акружаюць з усіх бакоў. Марожанае ўсім смакуе.

Фота В. Рудчык

## ПАВЫШАЮЦЬ ВЕДЫ

Будучы ў Гайнаўцы зайшоў я ў Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў, каб пагутарыць з інструктарамі і даведацца аб іх намерах на сёлеташнюю жніўную кампанію.

Інструктар механізацыі грам. А. Вашкевіч акурат вёў гутарку з механізатарам сельгасгурткоў пры ПОМ-е ў Нарве грам. І. Місеюком аб арганізацыі курсаў для абслугоўваючых снапавязалкі да збожжа і для абслугоўваючых малацільныя агрэгаты.

Гаварылі яны мне, што ў вольны час для гаспадароў паміж сенажаццем і жнівом гэтыя курсы адбудуцца, каб потым перашколеныя людзі ўмелі добра абслугоўваць сельскагаспадарчыя машыны.

Далей правёў я гутарку з Віталем Назаруком, інструктарам ПЗКР, які апякуецца вясковай моладдзю, якая вучыцца ў СПР-ах. І так, СПР-ы ў Гайнаўскім павеце развіваюцца вельмі хутка. У 1964/65 годзе навучання было іх 38, а навучэнцаў было 314. У 1965/66 гадах было 48 курсаў і 503 навучэнцаў. У навучальным 1966/67 годзе было калектываў 60 і 666 асоб вучылася. Па гэтых ліках ужо можна ўбачыць, што зацікаўленне сельскагаспадарчымі ведамі ўзрасло ў Гайнаўскім павеце.

Далей Віктар Назарук у канцы чэрвеня арганізаваў сямідзённую экскурсію ў аколіцу Познані. 22 чэрвеня раніцай 50-асабовая група вясковай моладзі і членаў сельгасгурткоў выехала аўтакарам, каб паглядзець, як жывуць сяляне ў Познанскім ваяводстве.

**(М. Л.)**
Гайнаўскі павет

## З ГАЙНАЎШЧЫНЫ



**Бабуля з унукам.**

Фота Я. Цялушэцкі
Ляўкова

## 194

У Сямяціцкім павеце існуе 194 сельскагаспадарчыя гурткі. Гэтыя сельскагаспадарчыя арганізацыі здабылі папулярнасць на вёсках, таму што прычыняюцца да механізацыі апрацоўкі зямлі і да павышэння ўраджайнасці палёў. Пройдзе яшчэ нейкі час і сельгасгурток будзе ў кожнай вёсцы. (хс)

---

марак з дваіх. Муха заплаціць восем, патаргаваўшыся. З гэтай машынай яны даедуць да таго месца, дзе прызямлілася Аня. Вечарам, калі яны выкапаюць рацыю, па шашы зноў паедзе машына і даставіць іх да Рыбны. Раніцай Муха атрымае весткі, якія трэба будзе перадаць Бародзіну: Берг мерказаў з гэтага сеанса пачаць дэзінфармацыі.

Берг даў Мусе грошай і пазваніў у казіна, каб яго пусцілі туды. Муха шмат піў, зусім не п'янеў, прыглядаўся да прастытутак і ўсміхаўся асцярожнай усмешкай, калі да зго звярталіся па-нямецку афіцыянткі.

Каля дванаццатай ён дагаварыўся з немаладой размаляванай жанчынай. Ён даў ёй аванс і сказаў, што будзе чакаць яе на вуліцы.

Калі яна выйшла да яго, ён балюча ўзяў яе за руку і рвануў да сябе, каб яна была бліжэй, побач.

— Пан такі малады, — сказала жанчына, — мне нават страшна ісці з панам.

— Маўчы ты, — адказаў ёй Муха па-руску, — ідзеш і ідзі. Толькі моўчкі.

Раніцай Муха вярнуўся да сябе на яўку. Ён адчыніў дзверы і ўбачыў Сівога; Ані не было.

— Дзе радыстка? — спытаў Муха.

— Ідзем, яна ў нас, — сказаў Сівы, — ноччу была аблава, мы яе схавалі ў сябе, тут недалёка. Ідзем.

Калі Сівы прапусціў Муху ў лазню, тут было змрочна.

Муха сказаў:

— Запалі што-небудзь, а то з сонца не відаць ні чорта.

— Зараз.

Сівы чыркнуў запалкай і пры́ткнуў яе да кнота лямпы. Кнот хлопнуў, фрыкнуў, успыхнуў жоўтым полымем. Муха здзівіўся. Перад ім сядзела Аня, а побач з ёй той чалавек, з якім яму давалі вочную стаўку ў гестапа.

— Выйдзіце ўсе, — сказаў Віхор.

Усе вышлі. Муха і Віхор засталіся адны.

...Аня і Сівы стаялі каля лазні ў садзе. Яны чакалі звыш гадзіны. Потым у лазні бахнуў выстрал. Віхор вышаў і сказаў Сівому:

— Зараз мы яго закапаем, і ўсім трэба ўцякаць. Ён здрадзіў і тваю яўку і тое месца ў лесе, якое ты яму паказала.

— Якое? — спытала Аня.

— Тое самае. Дзе рацыя.

— Што ж цяпер рабіць?

— Патрэбна машына, Сівы, — сказаў Віхор, — выручай, сябра.

— Машына будзе.

Калі яны закапалі Муху, Аня спытала:

— А дзе ты быў дагэтуль?

— Я быў на іншай яўцы, — адказаў Віхор.

— У каго?

— У нашых сяброў.

Раніцай, вярнуўшыся з Трампчынскім на яго машыне са схаванай у багажніку рацыяй, Аня вышла на сеанс з Бародзіным і перадала, што група прыступае да працы.

**Працяг будзе**

# КІНО

**Праграма**
**18—23. VII. 1967 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Haszek i jego Szwejk" (radziecki), 18—19. „Kapral w matni" (franc.), 20—21. „Ściana czarownic" (polski), 22—23.

**Нараўка**

„Sublokator" (polski), „Fatalny list" (angl.), 19—23

**Нарва**

„Przed nami zakręt" (radz.), „Tytoń" (bułg.), 19—23.

**Чыжы**

„Bokser" (polski), „Samotna" (radz.), 19—23.

**Дубічы Царкоўныя**

„Okno na Lunapark" (włoski), „Ranny w lesie" (polski), 19—23.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Strzelby Apaczów" (USA), „Nasz wspólny przyjaciel" (radziecki), 19—23.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Dialog" (węgierski), „Fanfan Tulipan" (franc.), 18—21.

**Міхалова**

„Ludobójcy" (szwedzki), 18—19. „Kanciarze i spółka akcyjna" (angl.), 20—21. „Tygrys lubi świeże mięso" (franc.), 22—23.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Sprawdzono min nie ma" (jugosł.), „Ucieczka w milczenie" (NRD), 19—23.

**Новы Двор**

„Zerwany most" (polski), „Jesienny dzień" (wietnamski-, 22—23.

„НІВА" — ТВОЙ НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 7.173 Bltk M-3

# Жаўтачка

— Дагадзіў мне мой Кастусёк, то дагадзіў, што чуць на той свет не пайшла... Прыехаўшы з места кажа: — Ну, Мальвінка, прывёз я табе тое, што ты любіш. Бяры, пробуй, яшчэ свежанькі.

— Дзякую, мой міленькі, ты ведаеш, што мяне да гэтага прасіць не трэба...

Упыліла нараз хіба з паўтара фунта... Па пару гадзінах звалілася я на софку...

— Што з табою, Мальвінка? — перапугаўся Кастусь...

— Ой, Кастусёк, дрэнна, у мяне ў жываце зачалася культурная рэвалюцыя. Відаць салтысон быў не свежы.

І пачало мяне круціць на ўсе бакі. Ставала я ракам і бокам. Нічога не памагала... Гавару: Запрагай, Кастусь кабылу і вязі мяне да дохтара...

Дохтара спаткалі мы каля пункту здароўя. Ад'язджаў дзесь. Але падышоў да воза, глянуў на мяне і адрэзаў:

— Механічная жаўтачка!

Кастусь зачаў гаварыць пра салтысон.

— Мо' затрулася, прыпішыце якое лякарства?

Я магу даць толькі скіраванне да шпіталя... — Скочыў на матацыкл і ад'ехаў... А Кастусь падрапаў патыліцу, завярнуў кабылку і кажа: — Што ж, паедзем да знахаркі.

Жося цераз акно ўбачыла, што затрымалася каля яе фурманка, выбегла з хаты і падбегла да воза...

— Ой! Ой! — застагнала я...

А Кастусь зараз вытлумачыў: дохтар сказаў, што жаўтачка, парадзьце, што рабіць?

— Трэба піці параныя вошы, то зараз будзе й па жаўтачцы — параіла. Кастусь выкінуў з кішэні чырвоную паперку, падзякаваў і зацяў з месца кабылку... Але на паўдарогі стаў да мяне збянтэжаным голасам гаварыць:

— Параіла яна табе піць параныя вошы. Але адкуль мы іх возьмем. Ну так, калісь з бяды людзей вошы елі. А сягоння воша - фермы ніхто не трымае...

Кастусь бедаваў. А мяне як папатрасло, дык і боль як рукамі адняло. Заснула я на возе, а Кастусь прыкрыў мяне плахтаю, каб мухі не кусалі. Прачнулася і слухаю. А Дзмітрава Люба ў паветцы свайго мужыка на зубы бярэ... Кажа: — Пабач, дурню, Кастусь цэлы воз солі накупіў, а ў цябе няма й мяшэчка!

Адкрыла я плахту і гавару да Любы: — А што, суседко, ўжо й вас механічная жаўтачка забірае?

**Цётка Мальвіна**

# НІЎКА

### ПАВУКІ

Прыйшоў павук да павука ў госці.
— Чаго ты прыйшоў?
— У госці.
— А бутэльку прынёс?
— Хіба ў госці з бутэлькай ідуць?
— Дык пойдзем да цябе.
— Я таму і прыйшоў, каб да мяне не ішоў.

**А. Казлоўская**

### ХТО ЁН

— Вы тут працуеце? — спытаўся селянін ў незнаёмага чалавека, якога ён сустрэў у бюровым калідоры.

— Не, я дырэктар, — адказаў той.

### ДОБРАЕ НЕ НОВАЕ, А НОВАЕ НЕ ДОБРАЕ

Пазнаёміўшыся з музыкаю маладога кампазітара, Ференц Ліст сказаў яму:

— У вашых творах сапраўды ёсць многа добрага і новага. Шкада толькі, што добрае не новае, а новае не добрае.

### ШТО ТРЭБА?

— Калі ты будзеш добры, — гаворыць бабуля ўнуку, — ты трапіш у рай, а будзеш непаслухмяны — у пекла.

— Добра, бабуля, а што трэба зрабіць, каб трапіць у кіно?

### ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ

Чым розніцца гэтыя карціны? Усяго пяць мінут (а мо' і менш) спатрэбіцца вам для таго, каб адшукаць 11 адрозненняў гэтых карцінак. Пры ўмове, зразумела, што вы знаходлівы чалавек.

### РЭАГАВАННЕ

— Чулі, у Джутдзі растрата.
— Трэба будзе даць яму прэмію, каб ён змог пакрыць гэтую растрату.

### СПЕЎ

Пракукарэкаў Певень Салаўю:
— Спявак з цябе... Вось я пяю!
Ліса падкралася тым часам:
— Не песняй слаўны ты, — а мясам...

**Васіль Жуковіч**

Трэніроўка дрэсіроўшчыка ўдаваў.

### ПУХЛІНА АД СМЕХУ

Васіль: Здароў, Ромка!
Ромка: Ждароў Вашыль...
Васіль: Што ж гэта, браце, з табою? Шапляпць пачаў.
Ромка: Паштрадаў, Вашылька, паштрадаў.
Васіль (заўважыўшы, што ў сябра распухла губа): Хто ж гэта так цябе аформіў?
Ромка: Шмех вінаваты.
Васіль: Не разумею. Пры чым тут смех?
Ромка: Ды ты што, не верыш? Чэшнае шлова, пухліна ад шмеху.
Васіль: Як гэта ад смеху? Ці не даваенную камедыю ты глядзеў, што ад смеху аж губу разнесла?
Ромка: Ага, камедыю, толькі шонняшнюю. Іду гэта я па вуліцы і бачу — ідзе ў мітушкі п'яны чалавек. Людзі аж за жываты хапаюцца ад шмеху. І я рагатаў на ўсе жаштаўкі. А ён, шукін шын, чап мяне, ды як трэшне па губе. Бачыш! (паказвае на губу). Ну, што, хіба не праўда, што ад шмеху?

**Міхась Скрыпка**

— Вам вядома, што паводле статыстычнага штогодніка жанатыя жывуць больш за халастых?

— Мы тут гутарым, а ў мяне там цеста расце.

### ЁН ХОЧА ВЕДАЦЬ

— Мой бацька, — сказала маладая жанчына свайму паклонніку, — вельмі дзелавы чалавек. Будучы зусім маладым, ён здолеў сабраць даволі вялікае багацце. Ты хочаш ведаць, як ён гэта зрабіў?

— Вядома, — адказаў малады чалавек, — але ты спачатку скажы, ці мае ён гэта багацце цяпер.

### ВОСЬ ЯК

Муж.
— Я табе катэгарычна забараняю адразаць косы.
— Вось як?! А ты пытаўся ў мяне дазволу, калі пачынаў лысець?

# А ў полі вярба

**(Народная песня)**

А ў полі вярба,
Пад вярбой вада,
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада.

Дзеўка ад вады,
Хлопец да вады:
— Пастой, пастой, дзяўчыначка,
Дай каню вады.

— Рада б пастаяць,
Каню вады даць,
Мае басенькія ножкі, —
Сцюдзёна стаяць.

— Я зніму парчу,
Ножкі ўвярчу,
А назад як я вярнуся,
Боцікі куплю.

— Не купляй ты мне,
А купі сабе:
Ёсць у мяне татка, мамка,
Яны купяць мне.

# Курёзы

### ЗГУБЛЕНЫ НОС

Паліцыя Норталертона (Вялікабрытанія) паведаміла, што нос, які знайшлі не агенты, перададзены ўладальніку. Гэты нос быў знойдзены сярод абломкаў спартыўнага аўтамабіля пасля катастрофы. Знаходку тэрмінова адвезлі ў шпіталь, дзе ўрачы паклалі яе ў спецыяльную халадзільную камеру са спажыўным асяроддзем. Праз некалькі дзён у шпіталь быў дастаўлены пацярпеўшы. З дапамогай нескладанай аперацыі яму прышылі нос на ранейшае месца. Паліцыя адмовілася паведаміць прозвішча пацярпеўшага.

### ЦІКАВАЯ ГУЛЬНЯ

У Нью - Йорку адна сям'я ўбачыла ў паштовай скрынцы два білеты на тэатральны спектакль, на які цяжка было трапіць. Да білету была прыкладзена запіска: «Здагадайцеся, ад каго». Муж і жонка пайшлі ў тэатр і з задавальненнем паглядзелі новую п'есу. А калі вярнуліся дадому, убачылі, што іх кватэра абрабавана, а да дзвярэй прымацавана другая запіска: «Цяпер вы ведаеце, ад каго».

### ТАБЛЕТКІ АД... ГЛУПСТВА

Заходнегерманская паліцыя арыштавала нейкага Ульрыха Шмыніца па абвінавачанню ў махлярстве. Справа ў тым, што на працягу доўгага часу Ульрых займаўся продажам прыгатаваных ім таблетак, якія, па яго сцверджанню, дапамагаюць «вылечыцца» ад глупства. Справа ішла выдатна. Аднак нарэшце дурні зразумелі, што іх ахапачылі, і данеслі на Ульрыха ў паліцыю.

# Смяецца з намі

Перш за ўсё пазнай самога сябе. Але не так добра, каб сабе пашкодзіць.